



# Роздум аб пазіцыі настаўнікаў у школе

## Мы служылі той сістэме..,

У чэрвені г. г. Ашмянскі раённы аддзел адукацыі і прафсаюзны камітэт правялі запамінальную сустрэчу настаўнікаў-пенсіянераў раёна з сардэчнай падзякай за шматгадовую працу і добрым пачастункам. Мы асабліва ўдзячны старшыні прафсаюзнага камітэта М.М.Кунцэвічу, які сумеў на гэта сабраць адпаведныя сродкі, бо такое свята праводзілася і летась.

Слухаючы ўспаміны ветэранаў педагагічнай працы і словы падзякі ў наш адрас ад кіраўнікоў мясцовай улады, у мяне ўзніклі пытанні: якую ацэнку даць нашай пазіцыі ў той час, ці былі мы сумленныя перад вучнямі і праўдзівыя перад сабой, калі гаварылі ім аб перавазе сацыялістычнай сістэмы над капіталістычнай, калі вучылі любіць Радзіму ад Брэста да Уладзівастока...

Сёння маем усе падставы сказаць: не, не хлусілі, не падманвалі вучняў, бо мы верылі ў тое, аб чым ім гаварылі на ўроках. У ВНУ нас навучылі бачыць многа добрага вакол, а пра негатыўнае ў дзяржаве нічога не ведалі, яно шырока адкрылася толькі ў канцы 80-х і 90-х гадох. Савецкая рэчаіснасць падцвярджала, што людзі маюць права на працу, адпачынак, пенсію, бясплатнае лячэнне, санаторнае аздараўленне, кватэры, навучанне ў ВНУ, задавальняльную зарплату вялося шырокае будаўніцтва. Нават бачнае ўсім катастрафічнае звужэнне сферы ўжывання беларускай мовы даволі пераканаўча тлумачылася палажэннем марксісцкай тэорыі аб збліжэнні і зліцці нацый па меры пабудовы камунізму. Нашы і вучнёўскія патрыятычныя пачуцці жывілі цудоўныя паэтычныя творы Багдановіча, Купалы, Коласа, Панчанкі, Танка і іншых патрыётаў.

## ...але веру ў кіраўнікоў дзяржавы страцілі даўно

На нашых вачах адбываліся і іншыя грамадскія і дзяржаўныя падзеі, якія ўплывалі на светапогляд кожнага. Добра помніцца ўсеагульнае ўсхваленне "мудрага правадыра ўсіх народаў", "бацькі" Сталіна і паўсюдны смутак, нават слёзы з прычыны яго смерці ў 1953 г. І вось зусім нечакана Хрушчоў раскрытыкаваў, культ яго асобы, а з'езд КПСС прыняў адпаведную пастанову. Але пра масавыя рэпрэсіі тады мы нічога не ведалі. А праз некалькі гадоў і сам генсек Хрушчоў быў вызвалены ад пасады за допушчаны валюнтарызм у дзеяннях. Мы былі сведкамі, як ствараўся і вырас культ асобы Брэжнева іператварыўся ў тормаз развіцця краіны. Выхад на гістарычную арэну Гарбачова для многіх з нас быў чаканым і абнадзейвальным: нарэшце знайшоўся ў краіне і партыі чалавек, які ўзяўся за перабудову дэфармаванага сацыялізму і паабяцаў вярнуць яму чалавечы твар. Тым больш нечаканымі і ашаламляльнымі аказаліся вынікі гэтай перабудовы. У выніку на пачатку 90-х гадоў панаванне камуністычнай ідэалогіі скончылася, пачаўся перыяд актыўнай дэмакратызацыі грамадства і нацыянальнага адраджэння.

Усе гэтыя грамадска-палітычныя падзеі мае пакаленне настаўнікаў (як і іншых грамадзян) прапусціла праз свае сэрцы і душы, а інтэнсіўная праца розуму прывяла да змены поглядаў у многіх. Прыпамінаю апошняга сакратара КПСС па ідэалогіі А. Якаўлева, які гаварыў: вояваў з верай у камунізм, а пасля погляды змяніліся на дэмакратычныя і прыводзіў выказванні Бальзака: "Тот болван, кто не меняет своих взглядов".

І калі сёння ў Беларусі ўлада з'яднана ў руках аднаго чалавека, а дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі бесперапынна славяць яго "мудрае" кіраўніцтва, дык для нас, ветэранаў, гэта вельмі добра і даўно знаёмая з'ява – стварэнне чарговага культу асобы. Абяцанні пабудаваць рынкавы сацыялізм падобны на хрушчоўскі камунізм, а курс на непазбежную інтэграцыю Беларусі з Расіяй і русіфікацыю краіны – антынацыянальны, бо пагражае нам стратай незалежнасці, аб гэтым цвердзяць усе СМІ, якія даступны кожнаму. Вось над чым неабходна думаць маладому пакаленню настаўнікаў, каб правільна вызначыць сваю сённяшнюю пазіцыю ў школе, класе, перад вучнямі.

*Міхась Пузіноўскі, ветэран педагагічнай працы, г. Ашмяны.*

# Шаноўнае спадарства, супрацоўнікі ТБМ!

Вось якая прычына падштурхнула мяне пісаць вам. Апошнім часам у найбольш прэстыжных кварталах Менска пачалі з'яўляцца шыльды з дзіўнымі надпісамі. Напрыклад, ў Троецкім Прадмесці знаходзіцца крама беларускіх сувеніраў, завецца яна "Анита". Абсурднасць гэткай назвы відавочная. Недасведчаныя госці альбо жыхары горада могуць падумаць, што гэта персанаж народнага фальклёру альбо любімая беларускімі кабетамі імя. Далей, у тым жа Троецкім Прадмесці, якое з'яўляецца візітовай карткай беларускай сталіцы і месціцца ў старадаўняй частцы горада зусім нядаўна адчынілася ўстанова пад назваю "Ресторанъ Рѣзгуляй". Гэта нармальна? Яшчэ прыклад: на праспекце Скарыны, у найвыгаднейшым месцы, каля станцыі метро "Кастрычніцкая" пасля рамонту адчыніўся бар "Печки-лавочки". Як гэта зразумець? Беларусам бракуе ўласных назваў? Чарговы наступ русіфікацыі? На жаль, гэткія прыклады можна яшчэ доўжыць.

Чым ёсць Менск? Правінцыяльным горадам паўночна-заходняга ўскрайну Расейскай імперыі альбо сталіцай суверэннай беларускай дзяржавы?

Наш Менск – сталіца суверэннае дзяржавы з 1000-гадовай гісторыяй, карэнных жыхары ў ёй – беларусы. Менск – места, якое адзначыла 500-годдзе статусу вольнага горада. То чаму ж у цэнтры гэтага горада крычаць назвы, так для нас нехарактэрныя?

На мой погляд, асобам, якія вынаходзяць і зацвярджаюць рознага кшталту найменні для ўстановаў нашай сталіцы ўсё ж такі трэба дбаць і аб яе прэстыжы, і аб уласнай дасведчанасці, кампетэнтнасці ды элементарнай тактоўнасці, каб не выглядаць дзікунамі і не зневажаць нацыянальнай годнасці тых, хто ж, гэтую годнасць, мае.

Не я адна так думаю. Шаноўнае спадарства, дайце рады, як зрабіць правільныя захады, каб направіць становішча?

Гэты ліст – мой пратэст.

*З павагай Ірына Зварыка, менчанка ў многіх пакаленнях, Ірына Пахоменка, Наталля Марцінкевіч, Таццяна Воранава.*

# Магілёўская трасянка

Многім вядома, што ад недахопу ведаў па беларускай мове, часцяком па радыё і на тэлебачанні гучыць так званая "трасянка". Не выключэннем тут з'яўляюцца і перадачы "Новага Радыё-Магілёў" – абласнога радыё Магілёўшчыны.

Іншы раз дзіву даешся ад такіх моўных кульбітаў. Аднойчы па гэтаму радыё, слухаючы прагноз надвор'я, пачуў па-беларуску: "Назаўтра па воблясці чакаецца дождж з грозамі". Ці, напрыклад, наступнае: "На плошчы Леніна адбудзецца ярмарка". А чаму не кірмаш? І г.д.

Шаноўныя радыёжурналісты – магілёўцы! Часцей заглядвайце ў слоўнікі беларускай мовы пры падрыхтоўцы сваіх матэрыялаў да эфіру, а яшчэ лепш запішыцеся на курсы беларускай мовы, уступіце ў Таварыства беларускай мовы ды выпішыце "Наша слова" і чытайце яго!

Але ўсё ж у перадачах абласнога радыё ёсць і прыемнае, а менавіта тое, што ўжо, бадай, год як на гэтым радыё на чысцюткай беларускай мове гучаць "Алёнчыны казкі" па панядзелках у выкананні Вольгі Цішкоўскай. Ад усёй душы хочацца пажадаць шаноўнай спадарыні Вользе новых поспехаў у гэтай высакароднай справе.

І яшчэ, калі раней застаўка абласнога тэлебачання была з надпісам "Магілёў", то зараз яна на рускай мове.

*Святаслаў Фёдаравіч Маханёк., г.п.Круглае.*

# Аповесць пра словы

### САМВЕ, САМАЕ...

Самы першы **відэлец** з'явіўся на выхадзе 2-га дзесяцігоддзя XI ст. у выглядзе двухзубага сярэбранага вырабу, якім карыстаўся венецыянскі дож Даменіка Сільвія.

Самае вышэйшае **гузікавае** "дасягненне" належыць каралю Францыі Францыску I (XVI ст.). Ён купіў для ўпрыгожвання свайго адзення 13 600 залатых гузікаў. А на адзенні рускага баярына звычайна красаваласа да 70 гузікаў.

Самую вялікую колькасць **запалак** скарыстоўваюць у Даніі і Швецыі: у сярэднім 2700 запалак у год на кожнага жыхара. Кожную ж секунду ў адной толькі Еўропе запальваецца 48300 запалак.

Самы першы **нож** узыходзіць да антычнасці, і быў ён у той час медным або жалезным. А яшчэ перад гэтым яго рабілі з каменю. Рымляне ведалі нажы і з мяккай сталі. Сафокл і Дэмасфен з'яўляліся дзецьмі майстроў-нажаўшчыкоў. Гэта спецыяльнасць была прэстыжнай.

Самая першая **падушка** з'явілася ў Старажытным Егіпце. Яна ўяўляла сабой простую драўляную падстаўку пад галаву. Рымляне ж рабілі падушкі з пер'я белых гусей, якіх куплялі ў германскіх плямёнаў.

Самае першае пісьмовае ўпамінанне аб ***зубных шчотках*** адносіцца да 1694 г. (Англія). А ўвогуле, як сцвярджаюць археолагі, ужо старажытныя народы Афрыкі для гэтай мэты выкарыстоўвалі спецыяльныя памазкі. Радзімай жа сучасных зубных шчотак лічыцца Францыя.

Самае першае сведчанне аб прымяненні **насавой хустачкі** адносіцца да XVI ст., аднак яна тады была чыста дэкаратыўнай дэталлю. Рабілі яе з батысту, упрыгожвалі вышыўкай і карункамі. Насілі насавую хустачку ў руках як упрыгожанне. Формы яе былі розныя: авальныя і круглыя, прадаўгаватыя і квадратныя. Толькі з XVII ст. насавая хустачка перастала быць упрыгожаннем і стала выкарыстоўвацца па прызначэнні.

### ЖАРТ, ПАЛОХАЦЬ, СОРАМ, КАЛАМБУР

Слова жарт паходзіць з польскага ***"жарт"***, якое ў сваю чаргу, як і чэшскае ***"жэрт"***, запазычана з нямецкага ***"шэрц" – жарт***. Яно азначае тое, што робяць ці гавораць не сур'ёзна, а для пацехі, забавы. Гэта і вострыя дасціпны выраз.

***Палохаць*** – агульнаславянскае слова. Найбольш блізкімі да яго з'яўляюцца наступныя паралелі: лацінскае ***"палор" – бледнасць, страх***, літоўскае ***"палшас"***, латвійскае ***"палс"*** – бледны. А развіццё значэння – ад назвы фізічнага выгляду да назвы псіхічнага стану. Спалох жа – гэта раптоўнае адчуванне страху: агульная нечаканая трывога, хвалявання.

***Сорам*** – таксама агульнаславянскае слова. Першапачаткова яно азначала ***'чырвань'***. Параўнайце літоўскае ***"сартас"*** – светла-чырвоны, латвійскае ***"сартс"*** – чырвоны тварам, ***"сартуот"*** – чырванець. А потым набыло сучаснае абстрактнае значэнне – пачуццё моцнай збянтэжанасці ад усведамлення недарэчнасці свайго ўчынку. Гэта яшчэ і ганьба.

Слова ***каламбур*** паходзіць ад імя нямецкага барона Калемберга, які ўладкаваўся пры двары польскага караля Станіслава Ляшчынскага. Дрэнна валодаючы французскай мовай і не вызначаючыся розумам, ён блытаў словы, якія нечакана набывалі жартоўны характар. Такія жарты і назвалі іменем іх гора-вынаходніка. Каламбур і ёсць гульня слоў, жарт, заснаваны на камічным абыгрыванні блізкіх па гучанні, але розных па значэнні слоў або словазлучэнняў.

### ГАДЗІННІКІ НА ЛЮБЫ ГУСТ

Самыя першыя гадзіннікі былі ўстаноўлены ў 1386 г. на кафедральным саборы ў англійскім горадзе Солсберы.

Самым вялікім гадзіннікам з'яўляецца гадзіннік на Спаскай вежы Маскоўскага Крамля. Ён займае 4 паверхі (з 7 па 10), склад-даецца з 4 асобных вузлоў: механізма ходу, бою чвэрцяў, гадзін і курантаў. Заводзіцца два разы ў суткі падыманнем трох гір вагой ад 160 да 224 кг. Цыферблаты курантаў выходзяць на 4 бакі вежы. Дыяметр іх – 6,12 м, вышыня лічбаў – 72 см. Даўжыня малой стрэлкі роўная 2,97 м, вялікай – 3, 28м. Агульная вага гадзінніка – каля 25 т.

Самым "высотным" гадзіннікам з'яўляецца гадзіннік на будынку МДУ у Маскве. Ён устаноўлены на вышыні 76 м. Заводзіцца адразу на тыдзень. Кожная стрэлка важыць 80 кг. На выраб гадзінніка пайшло 9 т. сталі, майстрамі зроблена для яго 25 тысяч разнастайных мацаванняў, шрубаў, шайбаў.

Унікальны гадзіннік захоўваецца ў Іванаўскім краязнаўчым музеі. Даўжыня яго – 3 м, вышыня – 2, 5. Корпус аздоблены каштоўнымі пародамі дрэва. Гадзіннік складаецца з трох незалежных частак. Першая, астранамічная, паказвае рух Зямлі, Венеры, Месяца. Другая, геаграфічная, адлічвае час у 36 буйнейшых гарадах усіх краін свету. Нарэшце, храналагічная частка – гэта календары чатырох годазлічэнняў: грыгарыянскага, юліянскага, юдзейскага і мусульманскага. Механізм прыводзіцца ў рух з дапамогай 25 спружын. А стварыў гэты унікальны прыбор часу ў 1873 г. парыжскі механік А. Білеце па заказу аднаго з нашчадкаў вядомага роду герцагаў Альба. Пасля смерці ўладальніка гадзіннік трапіў у Швейцарыю, яго вазілі па гарадах Еўропы, паказваючы, як цуд механікі і мастацтва. У 1911 г. ён трапіў да вядомага калекцыянера Д. Бурыліна.

Самы дакладны гадзіннік знаходзіцца ў Нацыянальным бюро стандартаў у Вашынгтоне. На працягу 370 тысяч гадоў ён можа адстаць або паіпсці наперад толькі на 1 сек. На другім месцы пасля яго стаіць атамны гадзіннік.

Самы дарагі жаночы ювелірны гадзіннік быў прапанаваны да продажу ў Швейцарыі. Корпус яго мае 10 брыльянтаў, для аправы апрацаваны 296 брыльянтаў, цыферблат усыпаны 128 дробнымі брыльянтамі, а бранзалет упрыгожаны 56 брыльянтамі. Вага гэтага гадзінніка амаль 200 г. а цана 3,5 млн швейцарскіх франкаў.

### КУПІ – ПРАДАМ

На аўкцыёне ў Нью-Ёрку паштовая марка "Брытанская Гвінея" пайшла за фантастычную цану – 850 тыс. долараў. Прычым для гешэфту патрабавалася толькі 1 хвіліна. Гэта, відаць, быў самы кароткі аўкцыён у свеце.

Пара брыльянтавых завушніц удавы шаха Ірана Фарах у Жэневе прададзена за 11 млн 300 тыс. франкаў.

У Нью-Ёрку на аўкцыёне куплена статуя егіпецкай багіні (яе ўзрост 3350 гадоў) за 742,5 тыс. долараў. Мабыць, такія вялікія грошы выкладзены таму, што яна калісьці належала вядомаму спеваку Джону Ленану.

Апошні ўдар малатка на аўкцыёне ў Парыжы абвясціў, што пісьмо Байрана да Стэндаля змяніла свайго ўладальніка. Яно прададзена за 380 тыс. франкаў.

З аўкцыёна ў Лондане рукапіс рамана "Працэс" Ф. Кафкі пайшоў за 1 млн фунтаў стэрлінгаў.

Самай дарагой карцінай нашых дзён аказаўся аўтапартрэт, напісаны П. Пікасо ў 20-гадовым узросце. На аўкцыёне фірмы "Сотбі" ў Нью-Йорку яна прададзена за 47,85 млн. долараў. У тым жа Нью-Ёрку карціна В. ван Гога "Сланечнікі" пайшла за 40 млн долараў.

У красавіку 1990 г. у Лондане на аўкцыёне "Сотбі" прадаваліся рускія... віны, у тым ліку з калекцыі цара Мікалая II. На 62 бутэльках захавалася нават царская пячатка – двухгаловы арол. Зафіксаваны такі рэкорд: нейкі швейцарац купіў бутэлькі лівадзійскага белага партвейну з асабістай калекцыі Мікалая II па цане 3190 фунтаў стэрлінгаў за штуку. А ўвогуле ад продажу гэтых він атрымана больш за 1 млн. амерыканскіх долараў.

*Іван ШПАДАРУК, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій.*

# Літаратурная старонка "Нашага слова"



## Янка Карповіч

*Нарадзіўся на Ляхаўшчыне ў вёсцы Зарытава. У 1936 годзе. Бацька многа чытаў, лепшым яго падарункам дзецям была кніга. Маці першай навучыла мяне пісьменству. Мой дзед Андрэй быў мастаком расказваць казкі ў вершах. Адну такую казку "Жар-птушка" расказваў 7 дзён. Вучыўся ў Падлескай сярэдняй школе. У 1960 годзе скончыў Гарадзенскі педінстытут імя Я. Купалы. Служыў у марфлоце на Балтыцы. Настаўнічаю ў горадзе Слоніме.*

*Люблю сваю Бацькаўшчыну, свой куточак у роднай вёсцы. Ён і цяпер мне пахне мядовымі кветкамі і я чую спеў птушак. І калі я прыязджаю дадому да сваёй матулі, слава Богу яна яшчэ жыве, я іду да свайго куточка, каб сказаць яму добры дзень і, закрыўшы вочы успамінаю, я яго бачу, хоць на тым месцы ўжо даўно рукатворнае возера калгаса "Беларусь".*

**1. Мая Беларусь**

Ты мая белая, белая, белая,
Сэрцам любімая, замілаваная.
Самая шчырая, самая верная,
Родная, мілая і закаханая.

Ты і крынічная, ты і азёрная,
Ты і лясная, і журавінная,
Хлебам пахучая, песнямі звонкая,
І салаўіная, і жураўліная.

З чым параўнаць цябе, родная, мілая,
Дзе яшчэ знойдзеш такія мясціны?
Ты мая белая, сіняя-сіняя,
Спадчына слаўная, край мой адзіны.

**2. Болем пакутуе сэрца**

Болем пакутуе сэрца,
Цемра ахутала край,
Бездар да ўлады ірвецца
Нам прапануючы рай

Беды ідуць чарадою,
Знічкай надзея мільгне,
Цемра навісне журбою,
Шчасце ізноў праміне.

**3. Малітва**

З глыбінь Беларусі, ад самых вытокаў
Наш голас малебны нясецца
Да самага неба, да нашага Бога,
Святой ён малітвай завецца.

З мальбою кранаемся духу Ісуса:
Гасподзь, уратуй Беларусь
Ад злое навалы, пякельнага гнусу,
Наш Божа, ўратуй Беларусь.

Народ наш спадзеўку вялікую мае
Спакон на цябе, наш Гасподзь,
Бо хто з найсвяцейшых пра нас так падбае,
Як ты, наш Гасподзь.

**4. Родная мова**

Боская, матчына, родная мова,
Крык твой ад сэрца нясецца,
Ты ў загоне, роднае слова,
Болем душа скалынецца.

І ці ж не грэшна, табе, беларусу,
І ці ж не сорамна, браце,
Грэбаваць роднаю, матчынай мовай,
Гутарыць ёю стыдацца?!

Дык не цурайся ты роднае мовы
І не зракайся Радзімы,
Будзь жа ты сынам гэтага слова,
Верным і самым любімым.

**5. Бярозкі**

Цёплым ранкам росы
Распусцілі косы
Статных маладзіц.
У белых сарафанах
Крапінкі на тварах
У кроплях-бліскавіц.

Модна так прыбраных,
Марай апантаных
У чароўным сне.
Мілыя сястрыцы,
Дайце пакланіцца
Золкавай красе.

**6. Садовая завея**

Садовая завея
Вуалем белым вее,
Змятае срэбную расу,
А водар мёдам млее
І з неба дожджык сее,
Нясе дзявочую красу.

Пяюць аж заліваюцца,
Як быццам з небам раяцца
Над рэчкай салаўі.
А тут шпакі садовыя
Музыкі адмысловыя
Іграюць бы ў раі.

Там хвалі Шчары шэпчуцца
І лашчацца, і цешацца
Зіяннем дна ракі.
А кветкі, травы косамі
Пад залатымі росамі
Чаруюць тлумам пекнаты.

Ужо сонейка заветнае
Шле промнямі прыветнымі
Нам радасць ад нябёс.
Мае ж вы брацці – слонімцы,
Хай Бог заўжды бароніць Вас,
Дае шчаслівы лёс!

* * *

**Скафандры для вандровак па Зямлі**
**З будзёўнай назвай цела,**
**існуюць спрадвеку**
**І даюцца людзям ўсяго раз**
**У пачатку іх зямнога веку.**

**У даспехах гэтых душы нашыя жывуць,**
**З агню жыцця незгаснага іскрынкі,**
**Якія раздувае і гоніць лёсу вецер**
**Паміж абшараў, быццам парушынкі.**

**Мы лепшыя растрачваем гады,**
**Каб разгадаць будову свету, духу і цела**
**І аднойчы заўважаем, што на гэта**
**Усё жыццё зямное праляцела.**

**Жыццё кароткае, як век маланкі ў буру,**
**А час ідзе, і мне ,як усім людзям, нябогу,**
**Нашчадкам, што выходзяць з цемры**
**ў белы свет**
**Прыдзецца ўступаць на**
**ў будучнасць дарогу.**

**Скафандр свой пакідаць,**
**Які імгнення стане прахам,**
**І вяртацца ў таямнічы і вечны дом,**
**Што дзесь існуе**
**пад неабсяжным зорным дахам.**

* * *

**Мы ад прыроды ўсе заўзятыя артысты**
**У тэатры вечным Мельпамены**
**Нам дэкарацыі вада, паветра і сонца**
**Штодня майструюць новыя на сцэне.**

**Іграюць з намі свае ролі разам**
**Сучасныя Рагнеды і Гамлеты.**
**Як і раней, раўнуюць**
**спрытных прыгажунь Атэлы**
**І юным Клеапатрам**
**пішуць вершы новыя паэты.**

**Усе ў спяктаклях гэтых плачуць**
**ці спяваюць,**
**Кахаюць, ненавідзяць, ходзяць ў храмы**
**Разыгрываючы па майстэрску**
**штохвілінна**
**Трагедыі, камедыі і драмы.**

**Пытанне толькі, дзе сам рэжысёр**
**І хто сцэнарый ўсім складае,**
**І як ацэньвае ігру глядач небачны,**
**Што з залы будучнасці нашай пазглядае.**

**Аляксандр Антончык.**

### *Дзе Беларусі сыны!*

***Рэйтана подзвіг за нас паўтарылі***
***У Вярхоўным Савеце без страху яны.***
***Мы моўчкі глядзелі, як іх там білі!***
***Дзе Беларусі сыны?***

***Здрайцы Пагоні ўзлёт перарвалі,***
***Зрынулі Герб са сцяны.***
***Мы раўнадушна на ўсё пазіралі!***
***Дзе Беларусі сыны?***

***Гіена наш сцяг на шматкі разарвала***
***На іх засталіся пачвары сляды.***
***Мы зноў жа за гэтым***
***здалёк пазіралі!***
***Дзе ж Беларусі сыны?***

***Ляцела, шумела, кіпела гаворка:***
***І кэгэбістаў збываліся сны.***
***Пазняк аддзяліўся ад фронту Вячоркі.***
***Дзе ж Беларусі сыны?***

***За аб'яднанне з крывавым суседам***
***Толькі "па-рюскі" экран нам бубніць,***
***Дзе ж беларускі адказ недаверкам?***
***Дзе Беларусі сыны?***

***Грудзі Радзімы рвуць шэрыя воўкі,***
***Нішчаць свабоду яе груганы.***
***Дзе ж наш Касцюшка, дзе Каліноўскі?***
***Дзе Беларусі сыны?***

***Лявон Карповіч.***

## *Іна Снарская*

**Вольніца**

Ах, якая вольніца, -
Твару не падняць,
Напявае воля мне:
"Крылы не баляць".

Не баляць, а цешацца
Небам, як лязом,
Бізунамі свецяцца
Недзе над гарбом.

Ах, якая вольніца, -
Ножык пад рабро,
"Заспяваеш, золатца?" –
Сківіцы звяло.

"Загаворыш, золатца?" -
Ліхаманка б'е,
То сярпом, то молатам,
Ды па галаве.

Ах, якая вольніца, -
Дурням векаваць,
Разышліся нехрысці –
Некаму збіраць.

**ВЕЦЕР**

Белы войнік, белы мніх, -
Замяло пургой усіх.
Зачыніліся двары,
Дзе паснулі ваяры.

Вее, вее ветруган,
Хто схаваўся –
той і пан,
Хто да лесу –
той і воўк,
Ды і ён ад ветру змоўк.

Сее, сее, сее ноччу
Дождж салёны –
крык сірочы.
У сарочках пад дажджом
Крочым, крочым за крыжом.

Моўчкі, моўчкі,
мы – краты,
Я сляпая, як і ты,
Я – нямая, ён – нямы, -
Ветрам скутыя грамы.

Жоўты прывід – поўны месяц,
І яго змаглі павесіць,
Ён – навец, і ты – навец,
Ён – пачатак,
ты – канец.

Мроіць пуга па спіне,
Мроіць цэгла па сцяне...
Белы войнік,
белы мніх, -
Замяло
пургой
усіх.

**КАРФАГЕН**

Няўжо вякі ў глухую сцену
Замкнулі дзеяў вадаспад?
Няма ўжо болей Карфагену?
І памяць здадзена на склад?

А можа не! Зірні ў паветра:
На несусветнай вышыні,
Нібы пасланец чорных нетраў,
Бі – 2 лунае ў цішыні.

І другі з нетраў не даруюць
Шыхтоў тужлівых жоўтых дзён
І, крыўду помнячы старую,
Абрынуць з неба свой праклён...

І разляцішча на кавалкі
Зямлі тупы маршчаты твар,
І згінуць ганьбы аскабалкі,
Каб споўніць трызну нашых мар.

**Аляксандр Батура.**





В. І. Саітава

# Шлях да Беларусі

Сярод незаслужана выкрэсленых з гісторыі беларускай культуры і палітычнага жыцця дзеячоў канца 19 – першай чвэрці 20 стагоддзяў асобнае месца належыць Тадэвушу Урублеўскаму.

Тадэвуш Урублеўскі (8.12.1858 – 3.07.1925 гг.) паходзіў з вядомага беларускага шляхецкага роду. Яго бацькі жылі і працавалі ў Вільні. Бацька – Яўстахі Урублеўскі быў паважаным доктарам-гомеапатам, маці Эмілія, з роду Беняўскіх сваё жыццё прысвяціла навучанню дзяцей. У сям'і панавала атмасфера высокай духоўнай культуры, патрыятызму, прагі і павагі да ведаў. Кніга была для Яўстахія і Эміліі крыніцай ведаў і натхнення, памочнікам і сябрам у працы і адпачынку. Таму ў гэтай сям'і заўсёды набываліся каштоўныя і карысныя кнігі, з году ў год павялічвалася бібліятэка. Шанаваліся і патрыятычныя пачуцці. Бацька маці, маёр Варфаламей Беняўскі, быў удзельнікам паўстання 1831 г., а яе дзед – вядомы канфедэрат і падарожнік Маўрыцы Беняўскі. Славуты брат бацькі Тадэвуша – Валеры Урублеўскі – быў адным з кіраўнікоў паўстання 1863/64 г.г., генералам Парыжскай камуны. Хлапчуком разам з бацькамі Тадэвуша наведваў дзядулю-эмігранта ў Лондане і дзядзьку Валерыя Урублеўскага ў Парыжы (1865г.).

Юны Тадэвуш меў выдатныя здольнасці, назаўжды стаў неўрымслівым прыхільнікам кніг, вельмі любіў сваіх бацькоў, шанаваў сямейныя патрыятычныя традыцыі, прагнуў сабе навукі і вольнасці радзіме. У 1877 г. ён з залатым медалём скончыў навучанне ў гімназіі. Згодна сямейнаму рашэнню юнак паехаў вывучаць медыцыну ў медыка-хірургічную акадэмію ў Санкт-Пецярбург, затым у Варшаўскі ўніверсітэт. Там за ўдзел у падпольнай сацыялістычнай арганізацыі быў арыштаваны і сасланы ў Табольскую губерню. У ссылцы кнігі, самаадукацыя дапамаглі паглыбіць і пашырыць веды і пасля заканчэння тэрміну пакарання, вярнуўшыся ў Пецярбург, Тадэвуш самастойна вывучае права. У 1886 г. ён экстэрнам паспяхова здае экзамены ў Пецярбургскім універсітэце за ўвесь курс навучання і становіцца адвакатам. У Пецярбургу ён пачаў працоўную дзейнасць памочнікам вядомага адваката У. Спасовіча – беларуса па паходжанні. Дарэчы бацька Уладзіміра Спасовіча, менскі ўрач, разам з іншымі гарадскімі медыкамі дапамагаў хворым падчас вынішчальнай эпідэміі халеры ў горадзе, якая пачалася ў жніўні 1853 г.

У 1891 г. памёр бацька і Тадэвуш назаўсёды пасяляецца ў бацькоўскім доме ў Вільні (вуліца Універсітэцкая, 9).

З вакон бацькоўскага дома было відаць губернатарскі палац і помнік кату Мураўёву. Сябры Т. Урублеўскага сведчаць, што гэты відок распаліў у душы маладога адваката полымя шляхетных пачуццяў патрыятызму і свабодалюбства, святло і цяпло якое ён нёс у сабе і для ўсіх. Яны называлі Урублеўскага святаром гэтых пачуццяў (3). Тадэвуш Урублеўскі становіцца відным грамадскім дзеячом. Ён піша навуковыя артыкулы па праблемах права, гісторыі, статыстыкі і іншых, прысвечаных мінуламу Вялікага Княства Літоўскага і сучаснасці гэтых земляў і народаў, дарагой для яго Вільні, шмат выступае ў розных грамадскіх суполках, навуковых таварыствах. Выдатны эрудыт і аратар, дасціпны субяседнік – ён прыцягваў высокаадукаваных і таленавітых людзей. Невыпадкова Т. Урублеўскі здолеў стварыць некалькі грамадскіх арганізацый, у т.л. ён аднавіў слаўнае Таварыства Шубраўцаў (1900г.) (2), як напамінак забытай традыцыі Віленскага універсітэта. Шубраўцамі сталі 33 чалавекі, пазней на яго паседжанні пачалі збірацца ўдзельнікі з другіх мясцін. Быў Т. Урублеўскі і сярод арганізатараў Народнага (ўсеагульнага) ўніверсітэта, асветніцкага таварыства "Веды". На працягу жыцця Т. Урублеўскі шмат падарожнічаў, але найбольш любіў і дасканала ведаў родны горад. Ён склаў пералікі віленскіх вуліц, банкаў, касцёлаў.

Малады юрыст хутка дасягнуў прафесійнага поспеху і заўжды быў адным з самых вядомых адвакатаў, удзельнікам гучных спраў. Так, у 1924 г. у Варшаўскім акруговым судзе Т. Урублеўскі абараняў архімандрыта Паўла Латышонка, абвінавачанага ў забойстве мітрапаліта Ю. Ярашэўскага – галавы праваслаўнай аўтакафельнай царквы ў Польшчы.

Не мог чалавек такога паходжання, здольнасцяў і адукацыі застацца абыякавым да лёсаў Бацькаўшчыны і яе народа. У сталым веку Т. Урублеўскі становіцца сведкам абуджэння нацыянальнага духу беларусаў-ліцвінаў, пад'ёму іх культуры і, нарэшце, спробаў дасягнуць нацыянальнай дзяржаўнасці. Існуюць пад-ставы сцвярджаць, што сам ў 60-м узросце ўсвядамляе ўласную нацыянальную ідэнтычнасць, як беларуса. Менавіта ў апошнія гады жыцця Т. Урублеўскі,Ю як навуковец і публіцыст, юрыст і грамадзянін уключаецца ў беларускі нацыянальны рух, імкнецца, наколькі быў здольны, адстойваць правы беларусаў, як народа і грамадзянскі стан асобных яго прадстаўнікоў.

Не вядома, калі і ад каго ён выдатна аваладаў беларускай мовай, на якой пачаў выступаць і публікаваць навуковыя артыкулы. (На працягу жыцця спачатку Т. Урублеўскі друкаваў навуковыя працы на рускай мове, па-польску, па-нямецку). Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі выклікала ў Т. Урублеўскага вялікі душэўны пад'ём і гонар за свой народ. Ён становіцца ў шэрагі віленскіх беларусаў, якія віталі БНР, жадалі працаваць для стварэння беларускай дзяржаўнасці. У 1918 г. ён падрыхтаваў публічнае выступленне, у якім раскрывалася значэнне дзяржаўнасці для беларускага народа. Аднак гістарычныя падзеі прывялі да раздраблення этнічнай беларускай тэрыторыі паміж БССР і суседнімі дзяржавамі. Вільня апынулася на тэрыторыі Польскай рэспублікі, віленскія беларусы, як і другія заходнія беларусы, імкнуліся развіваць нацыянальнае жыццё. Гэта праблема востра хвалявала і Т. Урублеўскага. На працягу 1918-1919 г.г. па ўласнай ініцыятыве ён падрыхтаваў шэраг праектаў прававых актаў, якія прысвячаліся юрыдычнаму рэгуляванню гміннага і павятовага самакіравання, натарыяту на тэрыторыі ўсходніх земляў Польшчы. Т. Урублеўскі імкнуўся захаваць ў прававых нормах мясцовыя асаблівасці.

Менавіта ў апошнія гады жыцця ствараюцца працы, прысвечаны беларускай нацыі і будучыні яе дзяржаўнасці. Гэта былі цяжкія часы для беларусаў у Польшчы. Польскія ўлады, забыўшыся на тое, што разам з палякамі беларусы больш за стагоддзе ішлі крыжовым шляхам барацьбы за вольнасць, сталі ствараць атмасферу несправядлівасці і крыўды ў разбураным вайною краі. У першыя гады існавання Рэчы Паспалітай на тэрыторыі Заходняй Беларусі фактычна вялася партызанская вайна, не аднаўлялася гаспадарка, да 1924 амаль не ішла аграрная рэформа, а мясцовую зямлю раздавалі чужынцам – асаднікам. Вынішчалася беларуская школа, закон ад 21.07.1924 г. забараніў ужыванне беларускай мовы ў кантактах з адміністрацыяй і ўладамі (6), частка беларускіх інтэлігентаў страціла працу ў сувязі з паланізацыйнымі распараджэннямі. Такі палітычны курс польскіх уладаў выклікаў пратэст беларускага насельніцтва і яго нацыянальных лідэраў. Глыбока перажываў за становішча і далейшы лёс беларускага народу Тадэвуш Урублеўскі. У 1924 г. пад псеўданімам Т. Вароніч ён надрукаваў у зборніку "Заходняя Беларусь" вялікі артыкул "Народ і дзяржава" (1). Зборнік "Заходняя Беларусь" быў падрыхтаваны Беларускім Выдавецкім Таварыствам і планаваўся як выданне з працягам. У выпуску за 1924 год удзельнічалі лідэры беларускага нацыянальнага руху таго часу і маладыя ўталентаваныя дзеячы: Антон Луцкевіч, Максім Гарэцкі, Наталля Арсенева, Уладзімір Жылка, Суліма, Л. Радзевіч, Антон Навіна, Раман Суніца, Ігнат Канчэўскі.

Артыкул "Народ і дзяржава" па значнасці займае ў выданні цэнтральнае месца і носіць па сучасных мерках паліталагічны характар. Як дасканалы правазнаўца, дасведчаны ў грамадзянскім і канстытуцыйным праве еўрапейскіх краін, эрудыт, валодаючы грунтоўнымі ведамі ў вобласці этналогіі, палітычнай гісторыі і культуры падышоў Т. Урублеўскі да вызначэння стану беларускага народа і яго будучыні. Шмат разоў спасылаецца на заканадаўчыя дакументы асобных краін, канцэпцыі і меркаванні дзесяткаў вучоных, выкарыстоўвае гістарычныя факты. Напрыклад, ён цікава палемізуе з У. Леніным па пытанні аб развіцці нацыянальных культур. Як гістарычны рубеж Т. Урублеўскі адзначае, што беларускае пытанне "з межаў культурна-нацыянальнае праблемы выйшла на грунт палітычна-дзяржаўны" (1,с.79). Разбіраючы азначэнні паняцця "народ", прыкметы, па якіх яно сфармавалася ў навуцы і існуе ў рэчаіснасці, Т. Урублеўскі выказаў меркаванне, што адзінай найбольш істотнай адзнакай народу з'яўляецца яго нацыянальная свядомасць. Ён характарызаваў народ як "духовае аб'яднаньне..., якое складаюць пачуцьці, думкі і іх праявы". (1, с.81). Аб'ектыўныя адзнакі народу, такія як тэрыторыя, мова і іншыя дзейнічаюць "у кірунку вытварэньня нацыянальнай свядомасьці" (1, с.81). Нацыянальная свядомасць, даказваў Т. Урублеўскі, з'яўляецца нацыянальна творчым элементам, фармуе нацыю і падштурхоўвае народ да дасягнення нацыянальнай дзяржаўнасці. "Дзеля гэтага, - пісаў Т. Урублеўскі, - узьнімаецца імкненьне народу да дзяржаўнае незалежнасьці, і ня можа быць спрэчкі аб тым, што найбольш ідэальнай формай разьвязаньня пытаньня аб нацыянальнай арганізацыі з'яўляецца зьліцьцё народу з дзяржавай. Гэта іменна і было найдалейшым імкненьнем беларускага грамадзянства, якое актам 25 марца 1918 году абвясціла незалежнасць Беларускае Народнае Рэспублікі" (1,с.86-87). Толькі дзяржава, сцвярджаў Т. Урублеўскі, можа найлепш забяспечыць развіццё нацыянальнай культуры. Сваю увагу ён засяродзіў на магчымасцях нацыянальнага развіцця беларусаў ва ўмовах раздзелу тэрыторыі ў 1921 г. З горыччу адзначае аўтар, што беларусы, маючы "ясна вызначаную нацыянальную тэрыторыю, дзе жывуць густой масай, апынуліся ў межах Польскай і Латвійскай Рэспублік у палажэньні нацыянальных меншасцяў" (1,с.87). Яго клопатам стала дамагацца забяспячэння правоў беларусаў, як нацыянальных супольнасцяў ў гэтых краінах, каб захаваць іх нацыянальную адметнасць. Заканадаўства гэтых краін павінна гарантаваць правы нацыянальных арганізацый беларусаў, лічыў Т. Урублеўскі. У згаданым артыкуле Т. Урублеўскі выказаў сваю канцэпцыю існавання беларускай этнічнай меншасці як нацыянальнай арганізацыі ва ўмовах дзяржаў, створаных другімі народамі. Ён сцвярджаў, што гэтыя дзяржавы абавязаны заканадаўча забяспечыць правы этнічнай меншасці на нацыянальную школу, навуку, пісьменства, мастацтва. У школе, судзе і адміністрацыі, па Т. Урублеўскаму, павінна ўжывацца мова большасці мясцовага насельніцтва. На мове нацыянальнай меншасці павінны друкавацца абвесткі і законы. (На жаль, у гэтым артыкуле не раскрыты адносіны аўтара да БССР, дзе ў гэты час у адукацыі, навуцы, культуры і ў адміністрацыйным кіраванні многае рабілася для таго, каб рэспубліка набыла нацыянальны характар.) У 1924 г. Т. Урублеўскі выступіў на з'ездзе польскіх юрыстаў з вялікім дакладам аб старажытным звычаёвым праве ВКЛ, які выклікаў значны навуковы і грамадскі рэзананс.

Пытанні і прапановы аўтарытэтнага юрыста і знаўцы гістарычнага лёсу беларусаў захоўваюць значэнне і ў нашы дні. Яшчэ нядаўна мы назіралі, як павышэнне нацыянальнай свядомасці на рубяжы 80-90-х г. г. штурхнула людзей да пазнання айчыннай гісторыі і пераасэнсавання адносінаў да беларускай культуры, мовы. У многіх беларусаў вырасла пачуццё нацыянальнай годнасці і гонару, імкненне да пабудовы незалежнай нацыянальнай дзяржавы. У апошнія ж гады нацыянальнае становішча беларусаў выклікае шмат трывогі, на жаль, і беларуская мова не стала пануючай ў адукацыі, судзе, органах дзяржаўнай улады. Думаецца, што развіццё нацыянальнай свядомасці застанецца галоўнай справай беларускай інтэлігенцыі, асобных дзеячоў і ўстаноў навукі, культуры, мастацтва, сродкаў масавай інфармацыі.

Улюбёнай справай усяго жыцця Тадэвуша Урублеўскага было збіранне кніг і папаўненне бацькоўскай бібліятэкі. У яго бібліятэцы былі рэдкія кнігі, рукапісы, гравюры, карты, фота і іншыя дакументы. Усе набыткі былі старанна скаталагізаваны і інвентарызаваны. Прыватная бібліятэка стала вялікай не толькі па колькасці асобнікаў, але, у чым не сумняваўся уладальнік, магла служыць асвеце і навуцы. З мэтай зрабіць бібліятэку даступнай для грамадзян, пакінуць любімаму гораду гэту культурную справу свайго жыцця Т. Урублеўскі стварыў "Таварыства Публічнай бібліятэкі імя Яўстахія і Эміліі Урублеўскіх", зацверджанае ўладамі 7 лістапада 1912 г. Так з'явілася ў Вільні яшчэ адна Публічная бібліятэка з каштоўнымі фондамі, сярод якіх былі дакументы па беларусазнаўству. Адкрыццё новай бібліятэкі было важнай акцыяй як для культурнага і навуковага жыцця горада, так і для ўмацавання бібліятэчнага абслугоўвання ў цэлым краі. Бібліятэка Віленскага ўніверсітэта, якая таксама была публічнай, пасля расправы над універсітэтам за ўдзел студэнтаў і выкладчыкаў у паўстанні 1863/64 года, была фактычна знішчана ў выніку вывазу яе фонду ў навуковыя і навучальныя ўстановы цэнтральных гарадоў Расіі. І гэта адбывалася ўжо не ў першы раз. Віленскі ўніверсітэт зачыняўся і яго бібліятэка аналагічным чынам рабавалася пасля задушэння паўстання 1830/31 года. Зразумела, што аднавіць яе старажытныя фонды не было ніякай магчымасці. Таму Публічная бібліятэка імя Я. і Э. Урублеўскіх стала месцам навуковай працы і адукацыі для інтэлігенцыі і студэнтаў з Беларусі, Літвы і Польшчы. Створаная Тадэвушам Урублеўскім бібліятэка мела асаблівае значэнне для беларусазнаўчых даследванняў. Яе асноўнымі раздзеламі былі раздзелы аб горадзе Вільні ("Вільніяна"), аб мінулым і сучаснасці былых земляў Вялікага Княства Літоўскага ("Літуанікі"), мноства. у якім найлепш была прадстаўлена ложа ВКЛ.

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*

# Давайце смяяцца па-беларуску

**ДАБРО БЫВАЕ НЕБЯСПЕЧНЫМ**
**(Фельетон)**

Я сэрца перад тым раскрыю,
Душу шырока расчыню,
Хто косці мне не перамые,
Хто мае ласку, дабрыню.

І сам такі характар маю:
Слабых, нямоглых – так люблю!
Сяброў, таварышаў прымаю,
Каму магу – дабро раблю.

Прыемна быць такім, канешне,
Ды бойся прынцыпу свайго:
Дабро бывае небяспечным,
Пацерпіш часам з-за яго.

Вось аднаму – дапамагаю,
Прыношу рэчы і харчы.
Якую ж я падзяку маю?
Псіхуе ўрэшце і крычыць:

-Ды ад цябе няма карысці,
Ты мне нічога не даваў.
Прапала шмат чаго калісьці,
Не раз мяне абрабаваў!..

А там пустыя толькі сцены,
Што возьмеш – можна хіба даць.
А сам жа – дзядзька даваенны,
Шкада яго мне пакідаць.

Другому дапамог з ахвотай –
У справах важных зразумець;
З жытлом, жаніцьбаю, работай –
З усім, што трэба вельмі ўмець.

А той, пагардаю спавіты,
Высока надта нос задзёр:
-Вы што? Я сам – таленавіты,
Знаходжу ўсюды свой прастор!

Яшчэ адзін – быў сябар даўні,
Як многа я яму зрабіў!
Не ўгледзеўшы, які паганы,
Што ледзь мяне не загубіў.

Бо слабасці мае ўсе ведаў,
І прасачыў мой кожны крок.
А каб пазбавіцца ад бедаў,
"Сябры" такія – нам урок.

Са мной хто – згодзен, хто – не згодзен,
Паддзене нехта пад рабро,
Але ў мяне – свой курс паводзін,
І – буду ўсё ж рабіць дабро!

**РЫДЛЁЎКА І САБАКА**
**(гумарэска)**

Аднойчы я ехаў на дачу.
У транспарце выйшла задача –
З-за нейкай рыдлёўкі бяда ўся,
Навокал гармідар узняўся.

-Няёмка, нязручна, нялоўка,
калі ў вас з сабою рыдлёўка.
Вы хоць бы яе загарнулі
Ў анучу, у старыя кашулі.

Бо можна параніць кагосьці,
Тады – ні на дачу, ні ў госці.
Бо вострая ваша рыдлёўка,
І нехта паржэ абноўку.

Пра гэта ўжо ёсць пастанова,
І з хіба для вас гэта нова?..
Стаю і маўчу, небарака.
Заходзіць кабета з сабакам.

А той без намордніка, бачу.
Магчыма, ён вельмі кусачы.
Аднак жа ніхто не пытае,
Увагі ніхто не звяртае.

-Дык што, - я кажу пасажырам, -
Сабаку прымаеце з мірам,
І не баіцёся, што ўкусіць?
Страшней за рыдлёўку ён, мусіць.

-Турботы ж у вас без прычыны, -
Ў адказ чую голас жанчыны, -
Сабака не брэша на волі,
І ён не кусаўся ніколі.

-Чаго ж тады ў доме ён варты,
Калі ўсё маўчыць так упарта?
Украдуць па дрэннаму знаку
Увесь скарб, гаспадыню й сабаку.

**ВЫЛЕЧЫЛА**
**(гумарэска)**

Калісьці добрая сям'я –
Была традыцыя свая –
Каб мінаваў яе разлад
І справы ўсе ішлі на лад,

Ды ўрэшце ўсё ж не выйшла так,
Пайшло ўсё наперакасяк,
Бо муж у дружбе з пляшкай жыў,
Хваробу страўніка нажыў.

Ганяў ён па кватэры ўсіх,
Зрабіўся сам, як быццам псіх.
Ён піць хацеў, ды ўжо не мог.
Але смактаў заўжды за трох.

Кабету роспач узяла –
Тут недалёка і да зла.
-Я напушчу на злыдня мор,
Мне дапаможа мухамор.

Набрала ў лесе тых грыбоў,
Іх наварыла зноў і зноў.
Сабрала з іх цягучы сок.
-Цяпер трымайся, мужычок!

Жыцця не мела з-за цябе,
Мяне сумленне не шкрабе.
Няхай жа мне даруе Бог
Пхай тое, што б ты зжыць не змог.

Каб значных не было прыкмет,
Яна ў сняданак і абед,
І на вячэру – кап ды кап!
-Глытай тых кропель, божы раб.

Нічога ў стравах не відаць,
Не буду гэта пакідаць.
Малыя дозы – добра так!
Працягнеш ногі ты, бядак!

Мінае месяц, паўтара –
Пайшла хвароба са двара.
Шалёны ў мужа знік агонь,
Ён здаравены стаў, як конь.

Пасля праведаў, што было,
І адказаў на тое зло:
- Ты не крыві ад злосці рот,
Бо выйдзе ўсё наадварот.

... Яна з ім весела жыве.
Яму пітво – ні ў галаве.
Спяваюць песні на ўвесь двор.
Іх грыб любімы – мухамор.

**ІДЭАЛЬНЫ МУЖ**
**(гумарэска)**

У жыцці зусім рэальным
Як быць мужам ідэальным:
З жоначкай не пазяхаць,
Мілаваць і ўздыхаць.

Пакладзе суседка вока –
Абыдзі яе далёка.
Думай: самы верны – я,
Мне важней за ўсё – сям'я.

Аддавай усю зарплату,
Уступай, не будзь упарты.
Будзь цвярозенькі, не пі,
Толькі дома, дружа, спі.

Не цягні дамоў кагосьці,
Удваіх хадзіце ў госці.
Выбівай сам дываны,
І прасуй сабе штаны.

Паднясі гарбату ў ложак
Ты да жоначчыных ножак.
Спіць пакуль – згатуй сняданак,
І аблегчыш ёй ты ранак.

Ну, а жонка як палічыць,
Ці за ўсё цябе ўзвялічыць?
Дасць па носе, па гарбе,
Ногі вытра аб цябе...

Быць не варта ідэальным,
А – звычайным і нармальным.
Слова цвёрдае сказаць,
Свой характар паказаць.

Выпіваць, ды не напіцца,
Пашумець, але не біцца.
Грошы ўсе не аддаваць,
Аднаму не сумаваць.

Жонку палюбіць уранку,
А на вечар мець каханку.
Хопіць моцы на дваіх –
У пашане быць у іх.

Быць вясёлым і сур'ёзным,
А як трэба – нават грозным.
Што мужчынскае – зрабіць,
Спраў жаночых – не любіць!

Жонка ж, пэўна, не чужая,
І цябе запаважае.
Ад яе каб ты не знік,
Скажа: - Во ў мяне мужык!

**ЧУЖОЕ – ЛЕПЕЙ ЗА СВАЁ**
**(гумарэска)**

Калі прыйшоў дамоў з работы,
Пазбавіўся ад розных спраў.
І паначэраў ён з ахвотай,
І кніжку сцішана гартаў.

Яго кабета, маладзіца
За ім прыбрала ўсё, як след.
Затым пайшла і ў ванну – мыцца,
Бо муж – далёка шчэ не дзед.

А ён тым часам да суседкі,
Тым больш – кватэра побач тут.
Такое вытвараў нярэдка,
Да роднай хаты не прыкут.

Пакуль супруга мыліць цела,
Пакуль памыецца – час ёсць.
І, як кату, яму карцела,
Быў у суседкі ён не госць.

А той няма чамусьці дома.
Куды, падумаў, чорт нясе?
І замаркоціўся, вядома,
Да тэлевізара прысеў.

Вось жонка з ваннага пакоя
Выходзіць - свежанькая ўся.
І нельга ўседзець тут спакойна
Ад палымянасці жыцця.

Сказаў ён жонцы – гладкай, ёмкай
Без пачуцця сваёй віны:
-Калі б чужой была ты жонкай,
Дык не было б табе цаны!

*Вяршынін М.П.*

# Купалаўскаму музею -- 55



55 гадоў назад, 20 верасня 1945 года, у Менску адкрыў сваю экспазіцыю для наведвальнікаў Літаратурны музей Янкі Купалы. Першапачаткова яна размяшчалася ў некалькіх пакоях Палаца культуры прафсаюзаў. Сучасны будынак музея набудаваны ў 1960 годзе на месце невялікага драўлянага доміка, у якім Янка Купала жыў да 1941 года. Старэйшыя супрацоўнікі музея (злева направа): Фаіна Ваданосава, Ядвіга Раманоўская, Жана Данкюнас, Марыя Чабатарэвіч, Надзея Вітушка.

**Фота Аляксандра Дзідзевіча, БелТА.**

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеных інфармацый*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 2. 10. 2000 г.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 2548
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 171 руб., 3 мес.- 513 руб.
*Кошт у розніцу:* 45 руб.